Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 20 ГРОШ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

# ІСКРА

Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

№ 1. Вільня, Серада, 10-га чэрвеня 1925 г. Год І.

## Хітрая мэханіка.

Вера да сойму так пала ў шырокіх масах, што навет перастаюць цікавіцца тым, што там дзеецца. А сойм цяпер заняты ізноў—лёгка сказаць — зямельнаю рэформай. Гэтая справа, здаецца, такая важная, такая балючая, што за ею павінен быў-бы сачыць увесь народ. Новы зямельны закон ужо праведзены праз камісію ў другім чытаньні і скора мае зьявіцца на поўны збор сойму. Ізноў пасыплюцца прамовы й разгарацца спрэчкі. Але працоўны народ мала чаго добрага чакае ад усіх гэтых гутарак. Народ ужо даволі начакаўся, даволі ўжо наслухаўся розных ілжывых абяцанак, і цяпер паказвае толькі свой глыбокі розум, ня веручы далей.

Бо што-ж бачыў народ у працягу пяцёх з лішнім гадоў?

Абяцалі зямлю даць, а далі толькі такі закон, што перашкаджае навет яе купляць. Пакуль рабілі ды перараблялі законы, асаднікі ня толькі дарма пазабіралі найлепшыя землі, але ім за тое йшчэ даплачываюць з казны.

У той час, калі ня толькі ў саветах, але навет у буржуазнай Літве, Латвіі, Эстоніі, а навет Румыніі так ці інакш правялі ўжо зямельную рэформу, надзяляючы беззямельных і малазямельных зямлёй, у „дэмакратычнай" Польшчы ўсё толькі перарабляюць зямельныя законы. І выходзяць яны адзін горшы другога. Дык і новая пераробка ня будзе лепшай ад старых. Ужо цяпер ведама, што застануцца вялікія маёнткі ды загадзя ясна, што надалей будзе разьвівацца асадніцтва.

Цяпер ужо можна сказаць, што ўсе гэтыя пястаўскія, вызваленскія, пэпээсаўскія — „лявіцовыя" зямельныя законы прынясьлі сялянству, асабліва беларускаму і ўкраінскаму, куды больш шкоды, як карысьці.

Перад усім, —асадніцтва — гэта выдумка пэпээсаў і пястоўцаў, выдумка, падтрыманая ўсею польскаю „лявіцаю". Другое, — і гэта цяпер зусім сьмела можна сказаць — левіца абараніла маёнткі сваіх абшарнікаў.

Не аднаго гэта навет зьдзівіць, бо запраўды гэта вельмі хітрая мэханіка.

Мы пакідаем у старане навет тое, што „людовы", значыць народны, урад „сацыяліста" Морачэвскага і „людовца" Тугутта сам дабравольна аддаў уладу паном — абшарнікам, мы пакідаем тое, што левіца падтрымала буржуазна-панскую ўладу, вядучы з аружжам у руках барацьбу проці ідэі работніцка—сялянскай улады—усё гэта пакідаючы, затрымаемся над тым, як лявіцовая большасьць сойму абараніла панскія землі перад сялянствам самым законам.

Перад усім, каб ня было такога закону, які абяцаў сялянству зямлю, то сялянства хіба што ня білася толькі за адну да йшчэ „панскую ойчызну". Наадварот, сялянства і работнікі хіба што ўстанавілі бы тады сваю запраўды народную ўладу і... землі падзялілі.

Памінаючы гэты — хоць і найважнейшы момант —яшчэ адну вялізарную ўслугі зрабіла „лявіца" паном абшарнікам, на прыпадак калі-б аграрная рэвалюцыя дзеля якіх-колечы прычын не магла-была адбыцца. Зямельны закон перашкодзіў абшарнікам навет распрадаць зямлю тады, калі яны былі напужаны рэвалюцыяй, калі сяляне мелі сякія — такія грошы і калі зямля была танная...

І вышла так, што „сацыялістычныя" і „людовыя" шляхоцкіе сынкі (бо-ж Морачэвскія, Дашынскія і Тугутты — гэта ўсё панове шляхта),—што гэтыя „сынкі" выратавалі маёнткі й сваіх шляхоцкіх бацькоў.

Вось і вышла запраўды хітрая мэханіка! Адны другім хіба паставяць памятнік удзячнасьці...

## Польшча і Саветы.

У той час, калі Англія яўна выступае проці Польшчы, калі Францыя, баронячы сваю скуру ад Немцаў, прымушана таксама ісьці на ўступкі коштам Польшчы, паўстае вельмі цікавае пытаньне, якія адносіны складываюцца паміж Польшчай і Саветамі ў сучасны момант. Што думаюць аб гэтым на ўсходзе, перадае „Роста" (расейскае тэлеграфнае агенства). Вось паслухайма.

„У спрэчках па дакладзе Рыкава на Зьезьде Саветаў рад украінскіх і беларускіх дэпутатаў, а таксама старшыня цантральнага выканаўчага Камітэту Малдаўскай Аўтаномнай Рэспублікі, Старый, выступілі з вострай крытыкай палітыкі савецкага ўраду адносна да заходніх суседзяў (Польшчы і Румыніі).

З даручэньня Агульна ўкраінскага Зьезду Саветаў дэпутат Шумскі дамагаўся рашучых шагоў ад ураду, каб Польшча выпаўніла абавязкі рыжскага дагавору, які абяспечвае нацыянальным меншасьцям Польшчы магчымасьць культурнага разьвіцьця.

Зьезд пастанавіў, па-за чаргой, выслухаць аб'ясьненьне Чычэрына. Ен абхапіў усю заграцічную палітыку, заўважыўшы, што адносіны савецкага ўраду да другіх дзяржаў трэба разглядаць толькі ў зьвязку з усей палітыкай СССР., а найважнейшыя падставы гэтае палітыкі—гэта глыбокае імкненьне да міжнароднага міру і адбудова гаспадаркі. Заграцічная палітыка СССР носіць ясна выражаны абаронны характар. Чычэрын рашуча адкідае вельмі пашыраныя ў апошнія часы ў заграцічнай прэсе чуткі, быццам савецкі ўрад мае напастлівы нахіл. паміж іншым у зьвязку з адмовай яго прымаць учасьце ў канфэрэнцыі аб гандлю аружжам, якая, па думцы савецкага ўраду, ськівана да ўсіленьня спосабаў панаваньня сільнейшых дзяржаў над слабейшымі. У такіх канфэрэнцыях СССР ня можа прымаць учасьце, хоць самую Лігу Народаў Саветы і не заўсягды абсалютна байкатуюць, далучаючыся да нарадаў, што склікаюцца дзеля тэхнічных альбо гуманітарных мэтаў, а таксама дзеля скарочаньня вааружэньня.

Цьверджаньне—быццам стварэньне ў савецкай Сярэдняй Азіі новых нацыянальных рэспублік павінна нібы паслужыць выхадным пунктам да заборчых імкненьняў проці суседніх дзяржаваў—проста процілежна да запраўднай думкі стварэньня гэтых рэспублік, якое будзе толькі памагаць трывалым мірным адносінам з азіяцкімі суседзямі. Дакрануўшыся да абвіненьня савецкага ўраду у зьвязку з палажэньнем на Балканах, Чычэрын заяўляе: савецкі ўрад не зацікаўлены Балканамі ў большай меры, як другімі старонкамі, і заўсягды спачувае ўмацаваньню палітычных адносін на грунце самавызначэньня народаў, а не гадуе ніякіх напастлівых намераў ці пажаданьняў унясьці неспакой да балканскіх ці іншых дзяржаў.

**У адносінах да Польшчы** савецкі ўрад ставіць сабе задачу пайсьці на спатканьне ўсіліўшамуся ў Польшчы цячэньню, што змагаецца з ваяўнічымі напрамкамі польскай палітыкі і імкнецца да згоды з СССР,—каб ажывіць эканамічныя зьвязкі.

Зьвяртаючыся да крытыкаваўшых савецкую палітыку дэпутатаў, Чычэрын адзначае: Польшча нарушае рыжскія забавязаньні да нацыянальных меншасьцяў тым менш, чым менш завостраны яе адносіны з СССР. (1. каб жа гэта была праўда!—2. ці могуць быць менш завостранымі гэтыя адносіны, калі яны й цяпер зусім... тупыя! *Прыпісак рэдакцыі*).

Савецкаму ўраду прыходзіцца мець справу з двумя міжнароднымі камбінацыямі: процісавецкі адзіны фронт, альбо выкарыстаньне саветаў чужаземнымі дзяржавамі на сваей старане, прычым за апошні час пераважае першая камбінацыя.

Англія йграе першую ролю ў стварэньні агульнай варожасьці проці СССР. Чычэрын выказвае пажаданьне, каб запраўднае дзеяньне ангійскага міністра Чэмбэрлена было ў большай згоднасьці з яго славамі, што ён ня думае стварыць анты-савецкага фронту. У зьвязку з заявай Чэмбэрлена, што з СССР нельга ладзіць адносін, пакуль саветы ня спыняць прапаганды, Чычэрын кажа: савецкі ўрад гатоў і бярэ на сябе ўсе абавязкі, што выцякаюць з міжнародных адносін, але-ж калі казаць наагул, што ў СССР павінна кончыцца прапаганда, то гэта значыць, што компартыя павінна перастаць быць камуністычнай, а гэтага нікому ня ўдасца дабіцца.

Інтарэсы Францыі і СССР ня процілежныя ў сусьветнай палітыцы; на савецкіх граніцах не сустракаюцца францускія агенты, як сустракаюцца англійскія на ўсіх азіяцкіх граніцах СССР. Але палітыка Францыі мае яшчэ большую шырыню хістаньня, залежную ад яе адносін да трэціх дзяржаваў. Чычэрын паказвае на цесны зьвязак паміж наладжаньнем адносін з Францыяй і з Польшчай. Наладжаньне адносін з Францыяй адаб'ецца і на савецка-польскіх адносінах. Савецкі ўрад хоча давясьці да парадку з Францыяй ня толькі пытаньне аб даўгох, але таксама і чыста палітычныя пытаньні, перагаворы аб якіх разам з новым францускім урадам савецкі ўрад лічыць вельмі на часе. Савецкі ўрад афіцыяльна заявіў, што бачыць магчымасьць начаць перагаворы аб даўгох. Думаю, кажа Чычэрын, што ня так ужо немагчыма згода, як шмат каму здаецца".

---

Вось, якія гутаркі былі на зьездзе саветаў, вось, што казаў Чычэрын. І зразумела, раз капіталізм у заходня-эўрапэйскіх дзяржавах узмацаваўся хоць-бы й часова, раз няма надзеі на блізкую рэвалюцыю ў буржуазных краёх, то саветам трэба ўзмацаваць сваё гаспадарства, каб утрымацца і вясьці такую палітыку, якая біла-б вялікія імпэрыялістычныя дзяржавы па самаму хвораму месцу.

Найвялікшы і наймацнейшы вораг Саветаў, гэта безумоўна, Англія, але й яна мае не адно хворае месца. Яе сіла й багацьце апіраюцца на азіяцкіх і афрыканскіх калёніях — ды з усяго сьвету п'ець яна сокі. Індзія, самая багатая і вялікая азіяцкая калёнія Англіі, ляжыць блізка што побач з савецкай сярэдняй Азіяй, побач з тымі савецкімі нацыянальнымі рэспублікамі, што іх нядаўна стварылі Саветы. У Індзіі ад самага канца вайны ўсё пастаянна неспакойна, народ не задаволены з англійскага панаваньня, дык зразумела, што Англія баіцца нацыянальнай палітыкі Саветаў у Азіі. Яна бачыць, што дзеецца ў Кітаі, — таксама не бяз уплыву Саветаў, — дзе ўзбураны народ пачаў гнаць усіх белых і жоўтых імпэрыялістаў.

Падобныя падзеі ў калёніях ды сярод прыгнечаных народаў хоць-бы няведама колькі разоў былі прыдушаны, заўсёгды будуць аджываць, што-раз з большаю сілаю, пакуль не падарвуць у канцы канцоў аканчальна эўрапэйскага імпэрыялізму, пакуль не аслабяць і не разложаць капіталістычных дзяржаў, а—магчыма—у першую чаргу Англіі. Так хіба думае чырвоны саюз рэспублік. Але пакуль што будзе, трэба шукаць палітычнай апоры, карысную для сябе стыку, навет з буржуазнымі дзяжавамі. Рапольская ўмова была палітычна зьвязаўшы Саветы з Нямеччынай. Цяпер Англія, паддзержываючы Нямеччыну проціў Францыі, хоча перацягнуць Нямеччыну на свой бок і, галоўнае, паставіць яе проці саветаў. А гэта якраз можа зьвярнуць Францыю на добра ей ведамы шлях „франка-рускай" змовы. Хоць Францыя ў дадзены момант і ня зможа, аглядаючыся на сваіх быўшых „саюзьнікаў", таксама яўна і выразна падаць свае рукі Саветам, як яўна і адкрыта працягнуў сваю руку Францыі Чычэрын, то ўсё-ж можна сьмела сказаць, што раней ці пазьней франка-савецкая **палітычная** змова будза наладжана.

Калі такая згода з Саветамі патрэбна Францыі, то йшчэ больш яна патрэбна Польшчы. Да гэтага

змушае Польшчу перадусім яе прамысловасьць. Польскі промысел, польскія фабрыкі ня могуць на доўга абыйсьціся бяз рынкаў збыту на ўсходзе. Пакуль гэтыя рынкі зачынены, датуль прамысловасьць ня зможа цьвёрда стаць на ногі, датуль галоўны цяжар падаткаў будзе ляжаць на зямляробстве, датуль край ніяк не разбагацее і датуль са стану што-раз горшае галіны ня выдзе ні селянін, ні работнік. Гэта пачалі, відаць, разумець прадстаўнікі польскае буржуазіі ды прамыслоўцы, і выступленьне Чычэрына было прынята імі вельмі прыхільна. „Gaz. Warsz.“ напісала аб гэтым артыкул проста ў прыяцельскім да Саветаў тоне.

Ад слоў пераходзяць да дзела. Саюз вялікага польскага промыслу „Левіятан“ ужо ладзіць паездку сваіх прадстаўнікоў у СССР, каб тамака апытаць грунт.

Вельмі магчыма, што Польшчы ўдасца ўрэшце зрабіць так патрэбную для яе гандлёвую ўмову з Саветамі.

Ведама, што польскай буржуазіі, асабліва-ж эндэцкай партыі, ахватней было-б мець дачыненьне з царскай ці навет з „дэмократычнай“ Расеяй, а не з саветамі: раз, лягчэй было-б сабе кішані набіць, другое—лягчэй было-б падзяліцца беларускім і ўкраінскім народам, каб без перашкоды адныя маглі русыфікаваць, а другія палёнізаваць. Бо, што ні кажы, у саюзе ёсьць беларуская і украінская рэспублікі і гэтыя рэспублікі пратэстуюць проці бяспраўнага палажэньня беларускага і ўкраінскага народу ў межах Польшчы. Рэч у кожным разе няпрыемная і такая, з якой прыдзецца Польшчы што раз больш лічыцца.

Бай.

# Пастановы III зьезду Камун. Партыі Польшчы.

„Gazeta Warszawska“ у № 151 перадае пастановы III зьезду „Камуністычнае Партыі Польшчы“. Даведываемся, дзеля чаго папярэднія кіраўнікі партыі—Варскі, Костшэва і Валецкі — зьмешчаны са сваіх становішчаў. Зьезд абвіняе іх, што яны папхнулі партыю на шлях спортунізму (г. зн. угоды, пашлі лягчэйшай дарогай) і давялі яе да няўдачы ў часе забастовак 1923 году і кракаўскага „паўстаньня“.

У пастанове аб палітычным палажэньні і задачах партыі знаходзім больш-менш тыя самыя думкі, што сказалі Зіноўеў і Сталін на поўным зборы III Інтэрнацыяналу у красавіку. Зьезд дагледзіў некатарае ўзмацаваньне буржуазіі ў Польшчы і робіць вывад, што трэба гатовіць партыю на даўжэйшы час барацьбы і лічыцца з сучаснай бяздзейнасьцю работніцкіх масаў. Але часовае ўзмацаваньне буржуазіі з‘езд ня лічыць трывалым, бо цяперашняя зацяжная гаспадарчая ломка-крызыс, з прычыны аздараўленьня грошай, ізноў-жа падрывае капіталізм і памагае рэвалюцыі. На падмогу рэвалюцыі ідзе работніцкі рух, барацьба сялян і прыгнечаных польскім імпэрыялізмам народаў. Задача партыі ўсе гэтыя сілы зарганізаваць і сабраць пад кіраўніцтвам пралетарыяту, гэтай найважнейшай сілы рэвалюцыі.

Як спосаб прыцягнуць да сябе масы, партыя праводзіць тактыку адзінага фронту сялян і работнікаў. Пры гэтым кожную клясу трэба гуртаваць каля сваіх клясавых арганізацыяў: работнікаў—у фабрычных камітэтах і прафэсіянальных саюзах; сялян—у сялянскіх камітэтах абароны. Наагул зьезд робіць вялікі націск на кліч „работніцка-сялянскага саюзу“.

У рэзалюцыі аб „партыйнай працы на вёсцы“ знаходзім падрабязны разгляд розных сялянскіх, „хлопскіх“ партыяў, прычым „Пяст“, „Вызваленьне“, „оконяўцы“ і падобныя лічацца, як адна рэакцыйная маса, з якой камуністы бяз літасьці павінны змагацца. Галоўная-ж атака ва ўсіх рэзалюцыях зьвернута проці „партыяў работніцкай угоды” г. зн. проці П. П. С. (польская партыя сацыялістычная), Н. П. Р. (нацыянальная партыя работнікаў) і інш. Асабліва востра проці П. П. С. Акцыя за еднасьцю прафэсыянальных саюзаў, што зьезд наказвае партыі правадзіць, зварочваецца перадусім проці пэпэсаўцаў і мае на мэце вырваць кіраўніцтва прафэсыянальнага руху з рук гэтае партыі.

Вялікія надзеі прывязывае партыя, відно, да руху прыгнечаных народаў. Найбольш месца аддаецца руху на беларускіх і ўкраінскіх землях, „як найбольш сільнаму саюзьніку камуністычнага работніцкага руху“. У жыдоўскай справе партыя ўважае, што замала змагалася з антысэмітызмам, бо антысэмітызм найсільнейшы інструмэнт рэакцыі. Ацэніваецца так сама і нямецкае пытаньне ў вагульным укладзе рэвалюцыйных сіл.

З пастаноў а „бальшавізацыі пары“ відаць, што зьезд здае сабе справу аб тым, як мала яшчэ падгатоўлена партыя да шырокіх заданьняў. Пастанова кажа, якія трэба зрабіць агітацыйныя і палітычныя крокі, каб падняць „баявую здольнасьць партыі і прыблізіць здабыцьце дыктатуры пралетарыяту“.

Зьезд пратэстуе проці „белага тэрару“ у Польшчы і шлець прывітаньне да III інтэрнацыяналу, расейскай камуністычнай партыі і палітычных вязьняў.

Адбыўся зьезд у сакавіку сёлетняга году ў Вене.

# Аб чым пішуць.

### Нямецкая прэса аб рэвэляцыі п. Тугутта

Нямецкая прэса слушна піша, што ўсё тое, што польскі ўрад і пэўная польская прэса дагэтуль лічылі „клевятой“, цяпер сцьверджана зусім аўторытэтна і бясспрэчна асобай, меўшай усе магчымасьці ведаць усю праўду.

Дык цяпер справай меншасьцяў у Польшчы павінна нанова заняцца Ліга Народаў, на падставе сьвежых інфармацыяў польскага экс - віцэпрэм‘ера.

Польская прэса пад тым жа загалоўкам „Gaz. Warsz.“ кідае пяруны і маланкі ў п. Тугутта—за яго — „немаральны“ крок. Тугутт ня меў ніякай падставы абвіняць мін. Ратайскага ў прыкрываньні правакацыі і падтрыманьні ўрадоўцаў - праступнікаў, бо — ня прывёў ані воднага факту, ані воднага прозьвішча.

З другога боку п. Тугутт, як толькі што быўшы міністар, ня меў права разгалашаць тых інфармацый, якія атрымліваў урадова ад афіцыяльных установаў... За гэта Тугутта трэба пад суд! крычыць газэта. Няведама толькі, за што іменна? За „беспадстаўныя, няпраўдзівыя абвіненьні; ці—за разглашэньне праўды, якую „трэба“ было хаваць, як быламу міністру, як хаваюць яе застаўшыяся?!.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Гаспадарчы дэфіцыт Польшчы.

Афіцыяльная статыстычная часопіс дае лічбы ўвозу тавару Польшчы за першую чэцьверць гэтага году. У 3 месяцы ўвезена на 509.987.000 злот., а вывезена ўсяго на 330.966.000 зл. Дык гаспадарчы дэфіцыт (ад‘емны таргові балянс) краю выразіўся ў вялікай суме 179.000.000 зл.

Гэта значыць, што Польшча, як запраўднае „паньскае паньства“,—больш купляе, як вырабляе і прадае... Дык дзіва, што ў Польшчы ўсё менш робіцца злотых і наагул усялякай валюты. А калі так пойдзе надалей, дык запасы валютаў вычарпаюцца і прыдзецца ізноў, як да п. Грабскага,—фальшаваць сваю валюту,—друкаваць „паперкі“...

### Перабудова ўраду Грабскага.

З Варшавы наказуюць, што „крызыс“ габінэту Грабскага, выкліканы адстаўкай і рэвэляцыямі п. Тугутта, зацягнуўся. Прэм‘ер быццам згадзіўся на адстаўку п.п. Ратайскага і яго „крэсовага спэцыяліста“ Смульскага. Але лявіца быццам адмовілася ад дамаганьня, каб міністрам унутраных спраў быў яе кандыдат (на што, дапраўды, самой кампрамітавацца—ляпей і лягчэй лаяць правіцовага міністра, падтрымліваючы адначасна цэлы габінэт...). На мейсца п. Ратайскага мае вярнуцца п. Солтан, былы дэлегат у Вільні і міністар унутраных спраў. Лявіца (P. P. S.) трэбуюць адстаўкі яшчэ 2-х міністраў—чугункі п. Тышкі, які стала крыўдзіць работнікаў, і—справядлівасьці (для паноў) п. Жыхліньскага.

Прэм‘ер чакае на прыезд пана Прэзыдэнта, з якім парадзіцца, вырашыць справу перабудовы ўраду.

### Вайсковыя каты ў Варшаве.

У варшаўскім ваенна акружным судзе разглядалася вельмі характэрная справа 5 ахвіцэраў, якія катавалі сваіх падкамандных жаўняроў. „Героямі“ працэсу з‘яўляюцца 2 капітаны і 3 паручнікі, з якіх асаблівым чыста „Крэсовым“ зьверствам выдаваўся пар. Пшэгрода, запраўды ня ведаючы przegrody у сваім зьверстве. Паны ахвіцэры ставілі жаўняроў „пад кулямёт“, гэта значыць прымушалі трымаць па гадзінам на карку цяжкі кулямёт, білі жаўняроў да крыві самі, ці загадывалі біць розгамі таварышам-жаўняром. Апрача гэтага, паны ахвіцэры прысвойвалі сабе, папросту—кралі—пэнсіі жаўняроў. Выклікана 40 сьведкаў.

Усё польскае грамадзянства абураецца на гэткіх „вырадкаў“ польскага ахвіцэрства. Ня чытаючы інтэрпэляцыяў беларускіх і украінскіх паслоў, яны быццам ня ведаюць, што ўся гэтая зараза катаўніцтва плыве з Крэсаў, дзе яна ўвайшла даўно ў сыстэму панаваньня над краем... Дык—ці не прайшлі паны Пшэгроды гэтай уланска-пагранічнікаўскай школы „стасікаў“, што шалее на Крэсах (гл. інтэрпэляцыю Беларускага Клюбу аб катаваньні вучыцеля Беганскага).

### Прысуд у справе 5 ахвіцэраў-катаў.

3/VI пасьля 6 дзён распраўы ваенны суд вынес прысуд у справе 5 ахвіцэраў, катаваўшых жаўнярох. Засуджаны—капітан Вэнцкоўскі — на

# Варшаўскія страусы сярод сялянскай пустыні.

(*„Скандальны“ даклад п. Міхальскага ў Сойме*).

Польская прэса зусім па спосабу страўса, які, схаваўшы галаву пад хвост, думае, што яго ўжо ніхто ня бачыць,—замаўчала той рэдкі, амаль немагчымы ў запраўдных парлямантах скандал, які адбыўся ў польскім Сойме з дакладам па бюджэту міністэрства скарбу. Дакладчыкам бюджэтнай камісіі (?) выступаў былы міністар фінансаў п. Міхальскі — добры знаток фінансаў і востры прынцыповы праціўнік усей сыстэмы п. Грабскага, які „добрыя фінансы“ будуе на эканамічнай руіне краю... Калі пасол Міхальскі адчытаў свой даклад—ад імя камісіі—у Сойме, дык у салі, як любяць выражацца палякі, „зрабілася констэрнацыя“—ці панічны жах. Адзін па адным падніמаліся паслы, ці крычалі з местаў, што ня можна рабіць гэткія даклады, — дый яшчэ ад імя ўсей камісіі, — што гэта падважывае ўсю працу п. Грабскага, кампрамітуе ўсю яго „санацыю скарбу“, а перад усім шкодзіць Польшчы заграніцай, зачыняючы для яе яшчэ на адзін замок і без таго заперты замежны крэдыт. Бо — хто паверыць заграніцай у такую Польшчу, якую намаляваў пасол, дый яшчэ з правіцы, дый такі аўтарытэтны фінансіст, як былы міністар пас. Міхальскі.

Аб гэтым можна казаць у камісіі, але не з чутнай усяму сьвету трыбуны Сойму... Каб троха папрâвіць уражаньне ад дакладу п. Міхальскага, але тым толькі давяршыць скандал, выступіў сам старшыня і генэральны дакладчык бюджэтнай камісіі, заявіўшы, што бюджэтная камісія адракаецца (!) ад дакладу свайго фінансавага рэфэрэнта, складаючы ўсю адказнасьць за даклад на яго асабіста.

Цікава, што ніводная з газэтаў, якія мае наша рэдакцыя, навет не дала зусім дакладу п. Міхальскага. Гэткай тактыкай паны польскія міністэрскія, соймавыя (лявіцы і правіцы — аднолькава!) і прэсавыя страўсы „зьніштажаюць“ тыя запраўдныя небясьпекі краху, якія сцьвярдзіў п. Міхальскі, гэткім спосабам яны думаюць „супакоіць“, заграніцу!.. Што-ж кажа даклад п. Міхальскага? Даклад п. Міхальскага, ня ведама, як праскочыўшага па пленум Сойму, адбіты навет у дзяржаўнай друкарні, але асобнай кніжкай у прыватнай, дае ўсім добра ведамыя рэчы, як у Польшчы, так — яшчэ лепш!—і заграніцай. Але кажа з усей пераконываючай ведай, сілай і яснасьцю.

1) У цэнтры гаспадарчага жыцьця Польшчы пануе і шалее „востры зацяжны крызіс“, а асабліва „папросту катастрафічны недахват капіталу“, і—„нячуваная даражыня грошаў“. Усе гэтыя з‘явішчы з асаблівай сілай наступілі ў другой палове 1924 г., (пачатак „санацыі“ п. Грабскага) і „ад таго часу ўсё растуць і разьвіваюцца“.

„Гэткіх з‘явішчаў ні ў аднэй з эўрапэйскіх дзяржаў няма. Дапраўды—нідзе няма, каб адначасна даражэлі — і грошы і тавары, каб адначасна крызіс быў і востры і зацяжны, каб у край з гэткай даражынёй гроша, з гэткім нячувана высокім працэнтам крэдыту, ня йшлі загранічныя капіталы!..

2) Далей, выходзячы з бясспрэчнага прынцыпу, што „здаровы грош, бюджэтная раўнавага і добрая скарбовая гаспадарка могуць трывала апірацца толькі на здаровай грамадзкай гаспадарцы краю“, аўтар на падставе вялікай лічбы атрыманых ім ад цэлага раду ўрадовых і грамадзкіх устаноўаў афіцыяльных, часам, відаць, зусім не для аглашэньня ў друку выданых яму, як дакладчыку (?!) камісіі, афіцыяльных даных, сцьвярджае не здароўе, але хваробу гаспадаркі краю... Дык адсюль сцьвярджаецца залежная ад апошняй хвароба—гроша, раўнавагі бюджэту і скарбовай гаспадаркі краю—хвароба ўсей тэй „санацыі“ („аздараўленьня“!), якой так пышыцца ўрад п. Грабскага.

П. Міхальскі кажа, што скарбовая гаспадарка ў Польшчы 9/10 усіх сваіх выдаткаў пакрывае з падаткаў, чаго таксама няма ні ў адным гаспадарстве на сьвеце...

Канчаючы ўступную часьць, дакладчык кажа, што сяляне з якіх зьдзіраюць на падаткі апошнюю маемасьць, павінны прынамсь мець пэўнасьць, што яго апошнія грошы „чэсна і разумна“ („uczciwie i rządnie“) трацяцца ўрадам. Дзеля таго, ён у сваей крытыцы будзе „бязлітасным у сцьвярджэньні раскіднасьці і марнатраўстве дзяржаўнага гроша“, калі гэта дзе ўгледзіць. Бо калі ў гэтым гаду раўнавага бюджэту, з прычыны крызісу і непатрэбна павышаных выдаткаў ураду, акажацца фальшывай і ў канцы канцоў у бюджэце акажацца дэфіцыт, дык гэты дэфіцыт, наагул шкодны заўсёды паўсюдых, у Польшчы можа зусім зьніштожыць усе рэзультаты санацыі, з гэткім высілкам краю дакананай“.

---

Гаспадарчы стан краю рысуе дакладчык камісіі папросту катастрафічным. Сучасны стан Польшчы напамінае — кажа ён, часы... перад Вялікай Францускай Рэвалюцыяй (ён кажа троха больш павучонаму...), калі край і насяленьне вясковае галела што дня, а „дзяржаўныя касы былі (пакуль што яшчэ) поўнымі, калі скарб дзёр бязлітасна з зямлі падаткі і даніны, а на іх штучна рабіў і гадаваў казённую прамысловасьць“...

Разьніца толькі ў тым, што гэтая прамысловасьць, пабудаваная і ўзгадаваная на казённых заказах, сама з кождым днём малее і зьніштажаецца — з браку капіталаў.

Аратар сцьвярджае вядомы факт, што часы інфляцыі і спадку маркі, якія гэтак карысна для раз-

$1\frac{1}{2}$ года турмы і звальненьне з арміі, паручнік Пшэгрода—на 1 год турмы і звальнене, капітан Пёнткоўскі—на 1 год крэпасьці, двое апошніх — на 6 тыдняў турмы і крэпасьці.

# Заграніцай.

### Марская дэманстрацыя Англіі проці Расеі.

Англійскі флёт у ліку 2 эскадраў крэйсэраў і 5 флётыліяў мінаносцаў увайшоў у Балтыйскае мора, дзе мае адбыць вялікія манэўры і візыты ў порты ўсіх Балтыцкіх дзяржаў... Радавы ўрад слушна ўгледзіў у гэтых манэврах і візытах ваенную дэманстрацыю проці СССР, і ваенна-марскі камісар аддаў загад, каб Кранштадт раён Петраграду—на ўвесь час пабыту англійскага флёту у Балтыйскім моры—былі на асадным палажэньні.

### Англійскі наступнік трону—сацыяліст (?).

Амэрыканскія газэты паведамляюць, быццам наступнік англійскага трону прынц Уэльскі стаў сацыялістам. Быццам ён заявіў, што адмаўляецца ад правоў на трон і нават ня будзе жаніцца, каб не пладзіць прэтэндэнтаў на англійскую карону.

Кепскія часы для манархаў. Трэба спадзявацца хутка прынца каралеўскай крыві — камуніста!..

### Узаемная гарантыя калёніяў.

Англійскі ўрад быццам гатоў на „далейшыя ўступкі“ Францыі, прапануючы расшырыць пакт бясьпечнасьці—на ўсе калёніі Францыі і Бэльгіі, але дамагаючыся, зразумела, — узаемнасьці і каб Францыя і Бэльгія загарантавала Англіі ўсе захопленыя Англіяй нямецкія калёніі.

### Флірт Францыі з Італіяй.

Нямецкія газэты пішуць, што Францыя маніцца рэзка зьмяніць курс — у шуканьні апоры для забясьпечаньня сябе здабытага становішча ў Эўропе. Расчараваўшыся ў Англіі, Францыя пачала фабрыкаваць з Італіяй, каб Мусоліні згадзіўся заключыць спэцыяльныя ўмовы з Чэхаславакіяй і Польшчай, гарантуючыя іх граніцы з Нямеччынай. За гэта Францыя гарантавала-б, каб ня здарылося вельмі страшное для Італіі злучэньне Аўстрыі з Нямеччынай.

Ведама, што дагэтуль, па сваім палітычным і эканамічным інтэрэсам, Італія—у вялікай залежнасьці ад Англіі,—дык вельмі сумліўна, ці гэты плян „вызваленьня ад Англіі“ з помачай Італіі — удасца Францыі.

### Трыумф лявіцова-імпэрыялістычнага ўраду ў-ва Францыі.

На паседжаньні парляманту 30 траўня—пасьля заяваў прэм'ера і Брыяна, што францускі ўрад, вядучы вайну ў Марокко, мае перадусім на мэце... інтарэсы міру, сацыялісты выразілі ўраду свае здаволеньне, а пасьля ўся палата, апрача камуністаў, выразіла даверые ўраду. Любяць новыя сучасныя сацыялісты ваявацъ!

### Выбарная рэформа ў-ва Францыі.

Блёк францускай урадовай лявіцы пастанавіў правясьці праз парлямант рэформу выбарнага закону, скасаваўшы прапорцыянальнае галасаваньне (як у Польшчы) па сьпіскам. Тады лявіца ня будзе баяцца новых выбараў.

### Нота саюзьнікаў Нямеччыне.

Нарэшце саюзьнікі паразумеліся ў справе рапарту камісіі ваеннага кантролю над Нямеччынай і выслалі да ўраду апошняй ноту. Француская прэса адзначае „задзіўляюча мяккі характар“ ноты, даводзячы „лагоднасьць“ (калі ўгразла ў Марокко, дык і палагодняла) Францыі. Нота перад усім пратэстуе проці таго, што Нямеччына абыходзіць забарону мець армію для вонкавай абароны краю—праз стварэньне зброенага народу. Саюзьнікі пералічываюць усе ўхіленьні ад Трактату, дадаючы, што, калі будзе зроблена ўсё, чаго на падставе Трактату дамагаюцца саюзьнікі, дык Кэльнскі абшар будзе ачышчаны безадкладна.

---

Нямецкая прэса, пасьля атрыманьня ноты, выражае вялікае абурэньне; газэты пішуць, што нота паўтарае старое і павінна быць апошняй у гэтым родзе. Толькі адраджэньне ўзаемнага даверыя, а не прымусовае разбраеньне адных пераможаных, пры бясспынным збраеньні пераможцаў, адбудуе мір. Нямеччына баіцца, што якраз наадварот — пасьля яе аканчальнага разбраеньня саюзьнікі зусім перастануць лічыцца з ёй і — не ачысьцяць Кэльну... Дзіўна і абражаюча пасьля 7 гадоў міру напамінаць Нямеччыне, што яна — пераможана... Дзіва, што саюзьнікаў непакояць нямецкая прамысловасьць хімічная, ваенная і ўсялякая, але руйнаваць яе Нямеччына ня зьбіраецца—няма дурняў. Орган міністра замежных спраў Штрэзэмана рэзка называе ноту — „дакумэнтам дробнай імсьціўвасьці“ і кажа, што пакуль аднабокая кантрольная камісія (дзе верхаводзяць францускія ваенныя немцаеды) будзе рашаць пытаньні, ці споўніла Нямеччына загад разбраеньня, ці не, дык ніколі Кэльнскі абшар ня будзе эвакуаваны. Францыя папросту хоча трымаць у сваіх руках лінію Рэйну і будзе цягнуць акупацыю, пакуль зможа—сілай. Прэса называе ноту праступленьнем проці сувэрэнасьці (дзяржаўнай незалежнасьці Нямеччыны) і — срэдствам палітыкі гвалту.

### Урад забойцаў у Баўгарыі.

Крывавыя расправы ў Баўгарыі ня спыняюцца.

„Даразны“ суд у Філінопале прысудзіў на павешэньне 7 чалавек, а 5 — на катаржную турму—за напад на пошту.

У Софіі выканаваны прысуд сьмерці над 3 софійскімі бамбістамі—на плошчы, у прысутнасьці 50.000 таўпы. Роль катаў споўнілі 3 цыганы.

### Яшчэ і яшчэ—без канца.

У Баўгары ізноў раскрыты новыя змовы. Ізноў арыштаваны 140 асоб.

Але верхам скандалу для істнуючага ўраду Цанкова з'яўляецца яго загад зрабіць у сталіцы Софіі—пагалоўную равізію ўсіх кватэр і жыхароў места... Штось у родзе нашых наваградзкіх аблаваў...

### Паўстаньне ў Пэрсіі.

Выбухшае ўжо шмат часу таму паўстаньне ў Пэрсыі — пашыраецца. Паўстаньне даводзіць, што ўплыў Радавага ўраду ў Пэрсыі выпіхае ўплывы англійцаў.

### Ізноў працэс „камуністаў.

Ваенны суд распачаў разгляд новай справы „камуністаў“,—дастаўляўшых дынаміт замахоўцам і хаваўшых галаву змовы.

# Рэзалюцыі і прапазіцыі сэн. Уласава у фінансава-бюджэтнай камісіі Сэнату.

### Па міністэрству замежных спраў.

1) Сэнат заклікае ўрад, каб загранічная палітыка Рэчыпаспалітай была абапёрта: а) на нацыянальнай толеранцыі шырока зразумелай, б) на точным выкананьні трактатаў Вэрсальскага і Рыжскага—параграфаў датычачых нацыянальных меншасьцяў—у мэтах ухіленьня нацыянальных пытаньняў, як перашкоды дзеля паразуменьня з СССР (адкінута).

2) Сэнат заклікае ўрад, каб той энэргічна імкнуўся да ўсталеньня прыязных і шчырых адносін з СССР у мэтах: а) успакаеньня на граніцы і стварэньня вольнага пагранічнага руху дзеля мясцовай таргоўлі ў вёсках і мястэчках — для мясцовага насяленьня прыгранічнага паса ў 50 кілямэтраў на абодва бакі ад граніцы з імкненьнем да важнага руху, наагул праз граніцу; б) Заключэньне гандлёвай умовы з СССР на падставе найбольшых прывілеяў і імкненьня да мытнай вуніі (аб'яднаньня); в) Заключэньне чугункавых уставаў з СССР у мэтах поўнага выкарыстаньня чыгункавых лініяў: Берасьць—Гомель—Ковель — Кіяў, Вільня—Ромны, Седлец—Балагое, і воднага шляху па Нёману й Прыпяці (адкінута).

3) Сэнат заклікае ўрад, каб дзеля разьвіцьця прыязных адносінаў з СССР ён увайшоў у перагаворы аб арганізаваньні й высылкі ў СССР дэлегацыі з сяброў парляманту, работніцкіх саюзаў, прадстаўнікоў навукі, гандлю й прамысловасьці і журналістаў (адкінута).

### Па міністэрству ўнутраных спраў.

1) Сэнат заклікае ўрад, каб на асеньнюю сэсію заканадаўчых палатаў ён унёс законапраек аб аўтаноміі нацыянальных меншасьцяў на падставах раўназначных з арганізацыяй самаўрадаў, бяручы за падставу закон 5 лютага 1925 года аб аўтаноміі меншасьцяў у Эстонскай Рэспубліцы (адкінута);

2) Сэнат заклікае ўрад, каб на Усходніх Крэсах Польскай Рэспублікі было зроблена распараджэньне аб ліквідацыі ў азначаным кароткім часе калассальнай лічбы спраў аб выданьні сталых пашпартоў, вырашаючы як з найбольшай палёгкай і зычлівасьцяй для насяленьня некаторых дробных фармальных недакладнасьцяў (прынята вельмі падобна);

3) Сэнат заклікае ўрад да зьніштажэньня на Усходніх Крэсах Р.П.П. усіх застаўшыхся ад 1923—1924 гадоў паліцэйскіх пратаколаў аб дробных адміністрацыйных ... будовы краю выкарыстала Нямеччына, зусім прапалі для Польшчы. „Санацыя грошай“ зусім дабіла край.

„Калі дарагоўля будзе расьці надалей, калі польскі злоты будзе ўсё больш траціць сваю пакупную сілу ўнутры, навет утрымліваючы (штучна!) курс заграніцай, дык можна з вялікай точнасьцю аблічыць той мамэнт, калі гэты злоты заламаецца“.

„А гэта вялікая небясьпека запраўды сёньня пагражае, коштам вялікіх ахвяраў зробленай стабілізацыі злотага. Бо ўнутраная пакупная сіла злотага ўсё слабее і слабее“.

Фінансава-эканамічная піраміда Польшчы зложана так, што верх яе—грошы і бюджэт — здаровы, але сярэдзіна і перад усім увесь ніз — уся яе падстава, якая стварае нацыянальную гаспадарку—слабая і хворая, і што далей то больш.

„Нужда і беднасьць, аддаўна няведамыя, стукаюцца да хатаў у Польшчы ў нязвыклых дагэтуль разьмерах“... Калі грош, замест таго, каб быць гаспадарчым і дзяржаўным срэдствам, інструмэнтам, робіцца самамэтай, дык ён, зразумела, не гарантуе санацыі. „Здаровы грош у хворым гаспадарчым арганізьме падзеліць лёс яго хваробы, якая пажрэ яго зьнізу“.

---

Паводле даных вельмі аўтарытэтных установаў, дакладчык рысуе сучасны стан вёскі ў Польшчы, зруйнаванай „санацыяй п. Грабскага“.

Слушна аўтар ставіць вёску на чале, бо вёска—падстава дабрабыту земляробскай дзяржавы. „Усе гэтыя даныя рысуюць абраз такой вялікай „нэндзы“, асабліва ў вёсцы“.

„У многіх паветах краю ўжо ізноў дрэўняная саха (вось, дзіва!) арэ зямлю“. Вось, які ўпадак культуры! вось, запраўдны паварот да сярэднявечча“!..

Усе ўрадовыя і грамадзкія крыніцы дакладу сьцьвярджаюць—недахват збожжа на насеньне і на хлеб,—пагрозу цяжкага „przednówku“, брак крэдыту на вёсцы, нават у жыдоў, руіну будынкаў, і прыладаў працы, паўсюдны, а ў некаторых мяйсцовасьцях страшэнны неўраджай (якому, як сцьвярдзіў п. Тугутт, урад папросту ня верыць, схаваў галаву страўс пад хвост, дык і няма!); страшэнныя цяжары падаткаў, руйнуючыя дарэшты сялянства.

Патрэба дастаць грошы на падаткі выкідае за дарма на бедны вясковы рынак апошнюю маемасьць селяніна,—не ашчаджаючы і патрэбнага яму для гаспадаркі інвэнтару—жывога і мёртвага.

Вялікая прадажа на рынку страшэнна абнізіла цану на гэтыя рэчы—на быдла, каней і іншую жывёлу.

Нячуваная нідзе ў сьвеце рэч — сярэдняя цана добрага каня ў польскай вёсцы 100 злотых, а ёсьць мясцовасьці, дзе конь прадаецца за 20 злотых!.. Калі яшчэ прошлай вясной каштаваў каля 600 злотых.

Дык—ці-ж ня рай дапраўды ў Польшчы, — калі так танны так патрэбныя для селяніна рэчы, як конь!!. На быдла—тая цана...

Адно толькі гора ў гэтым сялянскім раі, што селянін **ня можа купляць, а змушаны толькі прадаваць** таннага каня ці карову, бо ня мае зусім грошай...

А помачы ўрадовай зусім няма. Дый скуль яна можа ўзяцца, калі ўрад як раз і — зьдзірае з вёскі апошняе!.. **„Сучасная вёска** ў Заходняй Галіччыны сьцьвярджае Саюз Рольнічых Колкаў кракоўшчыны, **шпаркім крокам ідзе да аканчальнага згаленьня і вельмі хутка можа стаць асяродкам камуністычнага руху**“... І гэта—у найбольш польскай і каталіцкай з усей Польшчы Кракаўшчыне, якая, здаецца—найдалей ад усходняй граніцы!..

Даныя з Усходняе Галіччыны — таксама застрашаючыя

Няўраджай страшэнны. Хлебароб зьняў з поля толькі тое, што пасеяў. Ня хопіць (і не хапіла!) паловы насеньня. Дык бяда неўраджаю пяройдзе на наступны год. Бульбу, слаба ўрадзіўшую, даела зараза... Вёска ня мае веры, ці перартрывае да новага збожа. Дык апатыя, неахвота, недавольства пануе паўсюдых.

Пасьля забойчых падаткаў скарбовых дабіваюць вёску падаткі „самаўрадовыя“... (праўду кажучы, самаўрадаў няма, але падаткі на іх ёсьць) і—цяжкія, як сьцьвярджае дакладчык, зусім самавольныя. Ведама-ж „самаўрад“, гэта—пан староста.

Але-ж нехта карыстаецца з гэтага згаленьня вёскі, карыстаюцца скупшчыкі, пасрэднікі, спэкулянты-гандляры,—бо ж места не адчувае зусім гэтай „таннасьці“ збожа і жывёлы на вёсцы.

„Ёсьць яшчэ куткі краю, дзе хлебароб аддае збожа па цане—на 30% (на трэць) таней, як стаіць цана на біржы; па ўсяму абшару за нямецкімі акопамі за карову можна атрымаць ня больш 30 злотых, а за коні масова выкідаюцца на рынак па ўсяму Усходу Польшчы аж на Карпаты — па 25 злотых. Парася ідзе па 50 грошаў, куры, гусі—ня маюць ніякай цаны.. І няма нідзе ратунку сялянству у Польшчы!—„З малатка“ прадаецца за дарма паўжывая — ад „санацыі“ буржуазна-панскага ўраду—сялянская Польшча!..

„Відавочна, — за далёка давёў-бы нас аналіз (разбор, разгляд) гэткага „стану рэчаў“, у час спыняецца, разумеючы гэтую пагрозу, дакладчык...

А ці-ж паважны—(прынамсь—нязьмерна паважнейшы, як тыя, што адракліся ад гэтага страшнага абразу ў Сойме), думае, што там, дзе спыніўся ён у далейшым і глыбейшым аналізе, спыняецца і тая рэальнасьць, якую ён разглядае... На гэтым абразе сьмяротна захварэўшай ад урадавай санацыі ў Польшчы вёскі спыняемся пакуль што і мы. Але даклад дае яшчэ шмат цікавага ў іншых галінах у выніку дзяржаўнага гаспадараваньня „санацыйнага“ ўраду п. Грабскага ў Польшчы.

ністрацыйных нарушэньнях, зробленых пераважна вёскі й мястэчкам (адкінута);

4) Сэнат заклікае ўрад, каб выдаў распараджэньне, каб у бюджэтах гмін, паветаў і соймікаў павятовых на ўсходніх Крэсах на другое паўгодзе 1925 года выдаткі на адміністрацыю, пэнсіі й раз'езды ўрадоўцаў гмінаў і соймікаў павятовых не перавышалі 30 проц. усяго бюджэту на гэтае паўгодзе (адкінута);

5) Сэнат заклікае ўрад, каб на ўсходнія Крэсы назначаў нанова толькі такіх урадоўцаў, якія валадаюць мовай мясцовага насяленьня, а дзеля тых, якія ўжо там ёсьць, наладзіў экзамены беларускай ці, гдзе трэба, украінскай мовы (адкінута);

6) Сэнат заклікае ўрад, каб на адміністрацыйныя пасады на ўсходнія Крэсы назначаліся польскія грамадзяне беларуска-ўкраінскае нацыянальнасьці і каб урадоўцы гэтых нацыянальнасьцяў у пэўнай лічбе находзіліся ў кожнай дзяржаўнай установе на ўсходніх Крэсах (адкінута);

7) Сэнат заклікае ўрад, каб у амбуляторыях лекарскіх на абшары Віленшчыны і іншых усходніх ваяводзтваў адноўлена было права выдаваньня насяленьню лекаў з аптэкаў, якія маюцца пры гэтых амбуляторыях і каб урад у гэтай мэце скасаваў акульнікі забараняючыя выдаваньне лекаў (напр.: акульнік дэлегата ўраду ў Вільні № 137—1925 г.) (адкінута);

8) Сэнат заклікае ўрад, каб апрацаваў законапраект аб стварэньні цэнтральнай псыхіатрычнай бальніцы ў усходніх ваяводзтвах узамен былай у Нова-Вялейцы (прынята);

9) Сэнат заклікае ўрад, каб выдаў распараджэньне, каб усе загады карпусоў пагранічнай стражы, датычучыя пагранічнага насяленьня ў справе вобыскаў, арыштаў, дазнаньняў і звычайнага пераходу граніцы былі згоднымі з законамі і канстытуцыяй і каб гэтага рода справы былі выдаваны для расьледаваньня і выкананьня ўрадоўцамі дзяржаўнае паліцыі (адкінута).

10) Сэнат заклікае ўрад, каб прыступіў дзеля перагавораў з адпаведнымі ўладамі ў мэтах адбудаваньня мірных адносінаў на ўсходніх граніцах і гранічнага руху ў азначаным пасе на абодвых бакох граніцы, для гандлю на рынках пагранічных мястэчках (адкінута).

11) Сэнат заклікае ўрад да асьцярожнага тасаваньня ў прыгранічных мясцох і мястэчках забароны вулічнага руху пасьля 10 гадз. ўвечары (прынята).

### Па міністэрству асьветы і рэлігій, прапазіцыя сэнатара Уласава.

III. Унясьці ў бюджэт міністэрства асьветы і рэлігій на 1925 год новы параграф 12: субсідыя для прыватных беларускіх гімназіяў у Вільні 26.000 зл.; у Радашкавічах—24.000 зл.; у Навагрaдку—24.000 зл. і ў Клецку—24.000 зл. усяго на 98.000 зл. (прынята).

### Па міністэрству зямельных рэформ.

IV. Сэнат заклікае ўрад, каб пры прымусовай ці дабравольнай парцэляцыі зямель, гранічучых з зямельнай уласнасьцю мястэчак, землі, назначаныя для парцэляваньня, былі проданы выключна магістратам гэтых мястэчак (адложана да расправы над праектам зямельнае рэформы). Сэнат заклікае ўрад, каб сумы, назначаныя на дапамогу ваенным асаднікам на ўсходніх Крэсах, былі перанесены, як крэдыты, на комасацыю (на стварэньне хутароў са шнуроў).

### Міністэрства публічных работ.

V. Сэнат заклікае ўрад, каб арганізаваў дзеля направы шляхаў на ўсходніх Крэсах пазычаньне для павятовых соймікаў вузкакалейных пераносных рэльсаў і вагонаў (прынята).

### Міністэрства сельскае гаспадаркі і дзяржаўнай маемасьці.

VI. Сэнат заклікае ўрад, каб выдаў распараджэньне аб павялічэньні лясных школак і пасадак у дырэкцыях дзяржаўных лясоў—Вільні, Белавежа, Луцк прынята).

## ХРОНІКА.

**Візыт праф. Сімпсана ў Вільні.** „Dz. Wil." 7/VI нас паведамляе, аб прыездзе праф. Сімпсана да Вільні з Латвіі, дыпламата Ангельскага, у справах тэрытор'яльных дзяржаў Балтыцкіх. Як піша „Dz. Wil.", гэны праф. даўно ўжо знаны палякам сваей няпрыхільнасьцяй да Польшчы. У час пабыту праф. Сімпсан злажыў візыт прэзэсу Тымч. Літоўск. К-та д-ру Альсейцы, прэзэсу Літоўск. Нав. Т-ва Басановічу. Так сама быў у прэзэса Т-ва „Рытас" кс. Краваяліса, катарага не застаў у дому. Апрача ўпапянутых, праф. Сімпсан так-жа адведаў беларусаў ды жыдоў. Як урэшце сьцвярджае і вельмі занепакоены „Dz. Wil.", праф. Сімпсан не злажыў візытаў а ні прадстаўнікам польскай улады, ані польскаму грамадзянству.

**У справе расколу сярод віленскага праваславія і анафемы сэнатару Багдановічу.** Мітрапаліт Дзяніс, які прыехаў у Вільню, каб змусіць віленскае духавенства выканаць яго загад — праклясьць „антыпаньствовага" (?)—ня прызнаўшага сфабрыкаванай ў Варшаве праваслаўнай іерархіі ў Польшчы, натыкнуўся ў Вільні на такі моцны апор з боку лепшых папоў і ўсяго праваслаўнага грамадзянства (апрача толькі платных агэнтаў), што адмовіўся навет ад анафэмы. — За гэтую адмову усыплюць, відаць, яго „сьвентаблівасьці варшаўскія паны Пекарскія".

**Цэны на збожа і прадукты ў Вільні.** 5/VI наступныя цэны на прадукты: жыта 100 клгр. 32 з. 30 гр., ячмень (100 клгр.) 20 з. 50 гр.; авёс (100 клгр.) 19 з. 80 гр.; мука жытная (за 1 клгр.) $37\frac{1}{2}$ гр.; мука пшонная 50 прац. 53 гр.; 70 пр. 50 гр.; крупа грачан. цэлая 90 гр. кілё — дробная 95 гр.; пэрловая (панцак) 55 гр. сярэдняя 80 гр. дробная 90 гр.; цукер крыстал 115—120 гр. Мяса валовае 190 кілгр. Масла латвійскае I гат. 550; II-га 520; тутэйшае сьметанковае 4—90; саленае 4—75. Сланіна амэрыканская 2—60; — мяйсцовая 2—50; яйкі 8—10 гр. штука.

**Новый расклад цягнікоў.** З 5 чэрвеня г. г. ўваходзіць у жыцьцё новый расклад цягнікоў. Адходзяць з Вільні: № 703 а 7 г. 58 м. ран. на Зэмгальле, № 704—22 г. 40 м. — Варшава галоўн. (праз Горадню); № 12—18 г. 10 м. Варшава (Віл. праз Горадню); № 713—19 г. 00 м. на Зэмгальле; № 714—8 г. 00 м. Варшава (Віл. праз Горадню); № 411—22 г. 25 м. на Маладэчна; № 451—9 г. 10 м. Маладэчна; № 511 — 12 г. 20 м. Крулеушчызна (ў паняд., сераду і пятн.); № 551 — 19 г. 50 м. Крулеўшчызна; № 727—13 г. 30 м.—Н.-Сьвянцяны (ў нядз. і сьвята); № 729—15 г. 30 м.—Н.-Сьвянцяны (ў буднія дні); № 311—7 г. 00 м.— Лунінец (праз Ліду); № 313—20 г. 30 м.—Ліда—Лунінец (аўт., чацьв. і нядз.); № 817—18 г. 20 м.—Варшава ўсходн. (праз Ліду).

Будуць прыходзіць у Вільню: № 703 а 7 г. 30 м. раніцы з Варшавы гал., праз Горадню; № 704—22 г. 15 м.—Зэмгальле; № 711—6 г. 50 м. —Варшава (Вільн.) праз Горадню; № 713 — 18 г. 06 м.—Варшава (Віл.) праз Горадню; № 714 — 7 г. 35 м.—Зэмгальле; № 412—7 г. 05 м.—Маладэчна; № 452—19 г. 45 м.—Маладэчна; № 512 — 17 г. 35 м. — Крулеўшчызна (панядз., серады, й пятніцы); № 552 — 6 г. 40 м. — Крулеўшчызна; № 730—20 г. 10 м. — Нова-Сьвянцяны; № 312 — 23 г. 30 м. — Лунінец; № 314—7 г. 30 м. — Ліда Лунінец (аўт., чацьв. і нядз.); № 818—12 г. 00 м. —Варшава (усходн.) праз Ліду.

## Карэспандэнцыі.

### Курсы для беларускіх вучыцялёў.

Яшчэ замала арыштаў. Яшчэ замала сьлёз. Толькі і бачыш усё новыя арышты і сьвежыя сьлёзы, але найбольш тут дастаецца бедным вучыцялём. Ізноў Азерніцкім пастарункам з 15 па 16-га траўня а 2 гадзіне ўначы заарыштаваны вучыцель былое расейскае школы Васіль Літвінчык з вёскі Збочна, Чамерскае гміны, Слонімскага павету. Цяпер сядзіць у Слонімскім вастрозі.

Першага траўня ў яго зрабілі вобыск: забралі беларускія газэты, падручнікі і навет—праўда, доўга паўзіраўшыся, палажылі да купы і правапіс. Чаго-ж нам болей чакаць, калі ўжо і правапіс беларускі залічылі антыпаньствовым. Тут хаваецца нешта незразумелае: школьны закон праводзяць, а правапіс канфіскуецца. На што-ж пісаць законы—ці-ж толькі дзеля таго, каб саджаць нас па вастрогах?!

Няхай усе ведаюць: і ворагі і прыхільнікі нашыя, што беларуская вёска збудзілася і належнае сабе здабудзе.

Каб не ўмярці з голаду, вучыцель Літвінчык працаваў на чыгунцы паддзёншчыкам і так пакрысе перабіваўся. Ніякае проціпаньствовае агітацыі мы ад яго ня чулі, праўду сказаць, каб і хацеў, дык ня было часу гэтым займацца, бо, каб зарабіць які-колечы грош — запальваў і тушыў фанары.

Вось табе, чалавеча, награда за тое, што скончыў вучыцельскую семінарыю! Плача жонка з дзяцьмі! Плачуць малодшыя браты па сваім кармільцу! Плача і незакончаны зруб, што распачаў будаваць на мейсца спаленае хаты ў часе сусьветнай вайны і цяпер абіваюць чужыя куткі. Просьба да нашых паслоў! Разгледзець просім гэтыя справы і ўнясьці інтэрпэляцыю.

**Збачак.**

### Як спакушаюць.

*(М-ко Ярэмічы, Навагрaдзкага пав.).*

16-га траўня ў Ярэмічы прыехаў незнаёмы пан, які выдаў сябе за даверанага пана інспэктара і казаў, што ён аб'яжджае ўсе школы Навагрaдзкага павету і піша дэкларацыі тым бацькам, якія жадаюць, каб адкрылася польская, або мешаная школа. Прыехаўшы, ён прыпыніўся ў пана кіраўніка польскае школы. Той сказаў дзецям, каб ішлі да хаты і прывялі ў школу

## УВАГА!

**І-шы нумар „ІСКРА" рассылаем УСІМ, як пробны.**

**Надалей атрымліваць „ІСКРУ" будуць толькі платныя падпішчыкі.**

**Дзеля таго жадаючых мець газэту бесперарыўна просім паспяшыць з высылкай падпіскі.**

**Адміністрацыя.**

сваіх бацькоў. Калі папрыходзілі бацькі, то пан кіраўнік і гэты вывядоўца пускалі бацькоў па адным у клясу (рэшта-ж стаяла на двары) і там угаварвалі сялян, каб яны падпісалі дэкларацыі на польскую школу, а калі селянін не згаджаўся на польскую, то на мешаную. Гэты вывядовец казаў, што з беларускай школы ня будзе ніякай карысьці, што сяляне пакалечаць толькі сваіх дзяцей. Потым казаў, што беларускай школы ніколі ня будзе, бо няма беларускіх вучыцялёў, казаў, што беларуская мова складаецца з польскай і рускай, ды іншыя падобныя брэдні. Далей пагражаў штрафам, ды грaзіў, што гадунцы беларускіх школаў ня будуць мець магчымасьці паступіць у вышэйшыя школы, а калі скончаць гімназію, то ўсё-роўна будуць гараць, або коні пасьвіць на вёсцы, бо мейсца на ўрадовай службе не дастануць. Некаторых з сялян ён здалеў пераканаць, але яны не падпісаліся, чакаючы адзін на аднаго, каб хто падпісаўся першы. Пад той час падыйшоў вучыцель, тутэйшы жыхар, які быў гэткі самы селянін і бацька, вучыўшы яго, гэтак сама клаў апошнюю капейку, каб яго адукаваць, ды вельмі ашукаўся, бо, адукаваўшы яго, ён утраціў яго назаўсёды. Той з селяніна зрабіўся панам. І вось, гэты шаноўны палу-панок, як знаёмы ўсім сялянам, пачаў намаўляць іх, каб падпісаліся, а калі яны не згаджаліся, то ён, як знаёмы, паставіў сялянам гарэлкі і напаіў іх так, што яны ўжо нічога не памяталі, і ім у той час было ўсёроўна: польская ці беларуская школа, дык і падпісаліся, а за імі падпісаліся і тыя, якія ваганіся, якія баяліся, каб іх не аштрафавалі, а асабліва жанчыны. Так, што ўсіх сялян падпісалася блізу, што 15 чалавек, і характэрна замеціць, што тыя, што пілі, усе ня простыя, а людзі адукаваныя. Прыкладам: Батура (вясковы фэльчар), Бітус (вучыцель гэтай-жа школы), Мікалай Лічко (даўнейшы пісар) і інш. Дык вось, як у нас паны дабіваюцца мешанай (польска-беларускай) школы: пояць гарэлкаю і страшаць рознымі пастрашкамі, ды яны свае пастрашкі няхай схаваюць сьвіням на сьнеданьне, бо нашы сяляне нічога не баяцца і моцна трымаюцца за сваю родную школу, а тыя, якія спалохаліся, няхай другі раз знаюць, што, якімі-бы пастрашкамі іх ня страшылі, няхай не зважаюць, а верацьн, што беларуская школа будзе жыць, як жыў і жыве беларускі народ!.. Народ наш ужо прачнуўся зо сну, або, як сказаў адзін селянін: „Мы трыста лет маўчалі, пара і рот адкрыць". Дык бярыце, малаверныя, прыклад з тых, якія цьвёрда верацьн, што беларуская школа будзе жыць, як жыве беларускі народ, ня гледзячы на тое, што яго трымалі ў цемры.

Гэты самы вывядоўца спакусіў многіх сялян і з другіх вёсак. Як напр., Быкавічы, М. і В. Обрына, Лядкі тэй-жа гміны Ярэміцкай.

**Селянін.**



**Чытайце і пашырайце сваю беларускую газэту!**

**Прачытаўшы, аддай другому!**

Рэдактар-Выдавец: **М. Гэрмановіч.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.